—*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
5
ЧЭРВЕНЯ
1992 г.
№ 23 (3641)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ВЫЙСЦІ З НАЦЫЯНАЛЬНАГА АНАБІЁЗУ

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ: «Беларускі народ мог бы поўнасцю асімілявацца ці дэградаваць, калі б не яго славутыя доўгацярплівасць, працаздольнасць, таленавітасць... Калі б не гэтыя цудоўныя якасці беларускага нацыянальнага характару, існаванне беларускага народа, як самастойнага этнасу, магло б увогуле спыніцца яшчэ ў XIX стагоддзі».**

СТАРОНКІ 5, 12

## СТРАКАТЫЯ ВЫЯВЫ ДНЯ

**Па старонках штогадовіка «Дзень паэзіі—91».**

СТАРОНКІ 6—7

## «МЫ ВЯРНУЛІСЯ ДА ПАЧАТКУ...»

**«Балтыйская тэатральная вясна» ў Гародні.**

СТАРОНКІ 10—11

## ПОВЯЗЬ ЧАСОЎ

**Адна дэтэктыўная гісторыя пра росшукі археолагаў.**

СТАРОНКА 16

## НАС ПАПЯРЭДЖВАЮЦЬ

**Днямі мы атрымалі дакумент наступнага зместу:**

**«Учредителям газет и журналов. Главным редакторам газет и журналов. Министерство финансов Республики Беларусь. Министерство информации Республики Беларусь.**

**Сообщаем, что в связи с недостаточным финансированием газет и журналов «Наша слова», «Голас Радзімы», «Дзеці і мы», «Физкультурник Белоруссии», «ЛіМ», «Нёман», «Беларусь», «Полымя», «Мастацтва», «Крыніца», «Спадчына», «Театральная Беларусь», «Маладосць» издательство «Полымя» вынуждено с июля месяца т. г. приостановить выпуск вышеперечисленных изданий.**

**Директор М. А. Иванович».**

**Іншымі словамі, калі наш урад у бліжэйшы час не дасць неабходных сродкаў, ужо ў ліпені суверэнная Беларусь пазбавіцца значнай часткі сваёй перыёдыкі.**



ЧАС І МЫ

**Віктар КАЗЬКО**

# АЗВЯРЭННЕ

### Амаль крамлёўская гісторыя

ПРАШУ прабачэння ў звера. Ён да такога яшчэ не дайшоў і наўрад ці дойдзе. Гэта пра нас, каго і параўнаць нельга ні з кім і ні з чым. Пра чалавекаў.

Прыбіральшчыкі смецця сёння хрысцяцца, пад'язджаючы да студэнцкіх і маладзёжных інтэрнатаў. Там, у кантэйнерах, адыходах і адкідах шумных вечарынак і застолляў і проста будзёншчыны, можна знайсці задушанага маладой маці немаўля, што толькі ўчора ці нават сёння з'явілася на свет з неперавязанай яшчэ для жыцця, бруднай, як нейкі недарэчны матузок, пупавінай...

Бацька гвалтуе родную дачку. Лашчыць і песціць, мые ў ванне ёй плечыкі, насуха выцірае свежым ручніком, уцалоўвае радзімку на грудзях, ашчадна бярэ на рукі і нясе да сябе ў ложак...

Нябожчыка паднялі з табурэтак, на якіх каля брамы яго хаты ляжала труна, павезлі на могілкі, каб пахаваць. Аддалі зямлі, прыехалі назад, а ад табурэтак і знаку няма. Падкінулі ў гарод на трэці дзень, калі старая напісала аб'яву: табурэткі мае пойдуць за вамі на той свет, будзеце вы на іх перад Богам сядзець, як на патэльні...

Унук ці ўнучка забівае бабулю, таму што грошыкі на дыскатэку патрэбны...

І ўсё гэта не што-небудзь надзвычайнае, ніякая не паталогія, анармальнасць. Серыя, плынь, норма. Нармальныя, зробленыя яшчэ рукамі дзеда і прадзеда табурэткі, табурэтачкі. На гэтых драўляных табурэтках, услонах і лавах трымалася вясковая хата, нараджаліся, адседжвалі і адлежвалі пакаленні, але нам ужо на іх больш ні сесці, ні легчы нават у смяротны свой час, і нікому на іх ужо не нарадзіцца больш. Толькі гарэць, як у крэматорыі, смылець душою. Такія нашы сёння табурэткі. Такое наша сёння посткамуністычнае жыццё. Як і выкіды плазмы на сонцы, вывяржэнні вулканаў, землетрасенні там, дзе няма гор, паводкі амаль у пустыні. Невытлумачальныя і залпавыя выкіды насілля, гвалту і зла чалавечых душ— сістэма, як залпы ракет сістэмы «Град». І азонавыя дзіркі над галавой — прарэхі ў небе і душах. Чорныя ці белыя плямы памутнелага розуму, прарэхі ў ім, праз каторыя мо якраз і прарываюцца да нас прыхадні, лаўцы чалавечых душ, праз іх, пэўна ж, і адыходзяць, мігрыруюць у сусвет і самі нашы душы. А да нас ад абураных планет і сонца наплываюць гвалт і злыбяда. А мо і наадварот, наша зло і гвалт і ўтварылі тыя дзіркі, прапяклі ў небе брэшы і праломіны. Ахуталі брыдотай чыстыя зоркі нябесныя, атруцілі сваім духам сонца, абурылі, узбунтавалі планету. Не прымаюць зоркі душу чалавечую, сусвет распачаў вайну з нашым духам. Ідзе вайна касмічная, зорная вайна.

І блукаюць па сусвеце нашы непрыкаяныя душы. Няма ім спакою на зямлі, няма ні прытулку, ні прыстанку і на небе. Неба і зоркі згвалтаваны чалавекам. Зямля адмаўляецца прыняць яго прах. Чалавек з асалодаю творцы творыць сабе магілу. Мітусіцца, гойсае па могілках былога жыцця, капае, рые, як свіння лычом, раскопвае старыя магілы, дастае і адчыняе труны, трасе, перабірае і вее прах, не зважаючы ні на грэшнікаў, ні на праведнікаў, раскідвае косткі продкаў па ўсіх нашых весях і далях, вялікіх гарадах і маленькіх вёсках.

Непадалёк ад Мінска, наваяўленай сёння свету сталіцы наваяўленага супольніцтва, схавалася вёсачка. На высокім беразе рэчкі Пціч, што яшчэ ў сівой даўніне, калі на зямлі, пэўна, існавалі адны толькі птушкі, пратаптала яна сабе тут у мяккіх тарфяніках сцяжынку, сатварыла лебядзіную пасцель, з той пары мілуецца ў ёй. Да рэчкі прыляпіліся людзі, пабудавалі вёску і нарэклі яе таксама Пціч. Хаця птушак навокал у звычайныя дні і не вельмі відно. Прыб'ецца аднекуль з дзесятак буслоў на новабудоўлю перад увахodзінамі, нібыта правяраюць, хто тут селіцца, выпрабоўваюць чалавека, ці думаюць, што гэта нарэшце і ім адладзілі жытло. Назаляюць, ляцяць на новую хату сарокі, калі бярвенні кладуць не на мох, а на паклю, учыняюць разбой і крадзёж. Рабуюць яшчэ недабудаваную хату. Скок - паскок па дошчачцы, па бярвенцу, галоўкай у картузку сінім ці ў сіняй жа хусцінцы направа-налева і дзюбкай, носікам моцненькім, амаль стальным, між бярвенняў, дзе пакля пакладзена. Раз, і ўхапілі касмылёк, і пацяглі. Сілы не хапае дзюбкай — лапкамі падсобяць. Вось ужо ў сцяне і дзіркі, шчыруюць да сіняга поту ўваччу. Як і ўсе мы, пэўна, гэтыя апошнія семдзесят гадоў перамог і дасягненняў. Нясуць, нясуць па сінім небе, разносяць па сваіх гнёздах сугрэўную ім паклю. Папраўдзе, як мы з вамі, асабліва ў самыя апошнія гады, калі ў хаце нашай, вялікай, прасторнай і светлай, нічога, акрамя той паклі, ужо і не заставалася. А мы шчыравалі, не ведаючы адпачынку, не складаючы рук, нібы адчувалі, што б'е той апошні час, калі красці ўжо не будзе чаго і не будзе ў каго. Прыйдзе ж, спасцігне нас і такое за ўсе грахі нашы, і прадчувалі гэта. Чалавек празорлівы, ведае грахі свае, ведае душа яго, што было, што будзе, і тое, што за ўсё прыйдзецца трымаць адказ. І сарокі гэтыя хутчэй за ўсё ў перасцярогу чалавеку пасланы небам, а мо гэта і не сарокі зусім, а нашы зладзеяватыя ўжо душы. І наканавана, прадпісана ім вось так самазабыўна, але не ведаючы радасці век свой птушыны векаваць.

Гаспадарчыя буслы, зладзеяватыя сарокі. А іншых птушак над вёскаю і не відна, і не чутна. Мо самі пцічане служаць тут замест іх. Былі некалі людзьмі, а цяпер перавярнуліся ў птушак. Падобна, у варон, вельмі старых варон. Самі старыя, старыя іх гнёзды. Дзесятка паўтара хатак, што счарнелымі штандарамі ўраслі ў белы пясок, у адляцелае, як слізготная цень, мінулае, стоенае і прыхаванае ад нашага адукаванага вока і розуму. Толькі чуткі і меркаванні.

**(Працяг на стар. 14—15).**

# ХТО ВІНАВАТЫ І ШТО РАБІЦЬ?

## Сваё меркаванне выказалі ўдзельнікі сацыялагічнага апытання

Яго вынікам была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася ў Мінску, у выдавецка-паліграфічнай кампаніі «Эрыдан». Паводле заказу гэтай кампаніі група вучоных Сацыялагічнага цэнтра Белдзяржуніверсітэта пад кіраўніцтвам кандыдатаў навук Ж. Грышчанкі і Л. Новікавай правялі даследаванне на тэму: «Сучасная палітычная сітуацыя — ваша меркаванне». Сёлета ў красавіку метадам анкетавання ў сталіцы Беларусі і па ўсёй рэспубліцы было апытана 1465 чалавек. Сацыялагічная выбарка пры гэтым дазволіла ахапіць самыя розныя катэгорыі працаздольнага насельніцтва па такіх крытэрыях, як узрост, пол, сацыяльнае паходжанне, нацыянальнасць, сфера дзейнасці.

Па словах кіраўніка кампаніі «Эрыдан» А. Патупы, гэтыя даследаванні (дакладней — іх першы цыкл) — не разавая акцыя, не даніна модзе, а неабходнасць. Яны выкліканы патрэбай бачыць перспектыву, мець маштабны эканамічны і палітычны прагноз сітуацыі, магчымыя сцэнарыі яе развіцця на Беларусі. Ясна, што такі прагноз цікавіць не толькі прадпрымальнікаў, а даследаванні грамадскай думкі — не толькі спецыялістаў. Таму варта прывесці некаторыя вынікі работы сацыёлагаў БДУ. (На жаль, тут немагчыма прывесці звесткі апытання ва ўсёй іх сукупнасці або каментарыі сацыёлагаў. Прыйдзецца абмяжавацца фрагментамі).

Цэлы комплекс пытанняў зводзіўся, калі спрашчаць, да наступнага: хто вінаваты ў крызісе, які мы зараз перажываем, і якія шляхі выйсця з яго?

**74 працэнты апытаных ведаюць дакладны адказ на першае пытанне (у іх сфарміравалася пэўнае «аблічча ворага»). Амаль палова гэтых рэспандэнтаў ускладае галоўную адказнасць за крызіс на былы партыйна-дзяржаўны апарат. 27,5 працэнта бачаць галоўнага ворага ў арганізаванай злачыннасці (мафіі). 18,5 працэнта схільныя абвінавачваць новых палітычных лідэраў Беларусі... Цяперашні Вярхоўны Савет Беларусі абвінавачваюць 8,6 працэнта. Столькі ж бачаць ворага ў «дэмакратах». Да «патрыётаў» варожа ставяцца 4 працэнты.**

**64,6 працэнта апытаных лічаць неабходным закон, які б забараняў былым партфункцыянерам займаць кіруючыя пасады. Супраць — 14,5 працэнта.**

**43 працэнты апытаных выступаюць за прыватную ўласнасць у розных формах, амаль трыццаць працэнтаў — за калектыўную і каля 23 працэнтаў лічаць найбольш эфектыўнай формай уласнасці дзяржаўную.**

Незадаволенасць у грамадстве, як паказалі апытанні, сёння вялікая. Пры гэтым найбольш радыкальныя погляды выказваюць галоўным чынам прадпрымальнікі, студэнты і спецыялісты. А найбольш кансерватыўнымі застаюцца апарат кіравання і сялянства. Самае трывожнае, што каля 75 працэнтаў апытаных выказвалі гатоўнасць прыняць удзел у акцыях пратэсту супраць сучаснай сацыяльна-эканамічнай палітыкі.

У чым жа людзям бачыцца выйсце з эканамічнага і палітычнага крызісу? Больш як дзве трэціх выступаюць за больш актыўнае ўкараненне рынычных механізмаў і менш адной пятай — за тое, каб вярнуцца да сістэмы дзяржаўнага рэгулявання эканомікі. Гэта абнадзейвае. Але, з другога боку, 33,6 працэнта ўпэўнены, што патрэбна «цвёрдая рука» для навядзення парадку ў грамадстве і пакаранне «балбатуноў».

Цікава, што пры ўсім негатыўным стаўленні да КПСС у цэлым, больш за 30 працэнтаў апытаных ставяць ёй у заслугу стварэнне ваенна-прамысловага комплексу. Станоўча ацэньваюцца таксама НЭП і эканамічнае развіццё СССР да 1985 года. Найбольшае асуджэнне ў народзе выклікаюць сталінскія рэпрэсіі (68,6 працэнта лічаць іх злачынствам кампартыі), пралікі ў нацыянальнай палітыцы і Чарнобыль. Цікава, што звыш 17 працэнтаў апытаных адносяць да злачынстваў КПСС... перабудову. (А 27,7 лічаць перабудову памылкай.)

Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю 35,5 працэнта апытаных ацэньваюць як злачынны дзяржаўны пераварот. І толькі 16,1 працэнта ставяцца да Кастрычніка 17-га станоўча.

**Асобны блок склалі ў даследаванні пытанні аб мове. Ці трэба тлумачыць, якую ролю адыгрывае гэтае пытанне зараз у жыцці нашай рэспублікі? Апытанне паказала, што 17 працэнтаў рэспандэнтаў выступаюць сёння за тое, каб дзяржаўнай мовай у рэспубліцы была беларуская, 7,8 — руская і 74,1 працэнта — беларуская і руская. 17 працэнтаў — быццам бы, не так і мала. Аднак за тое, каб выкладанне ў школах і ВНУ вялося на беларускай мове, выказаліся ўсяго 6,5 працэнта ўдзельнікаў апытання. Звыш 80 працэнтаў — за выкладанне на рускай і беларускай мовах.**

Ясна, што на падставе аднаго даследавання нельга рабіць канчатковыя высновы. Кіраўнікі навуковай работы, дарэчы, пазбягалі катэгарычных ацэнак. Але ясна і іншае: мы пакуль вельмі кепска ведаем грамадства, у якім жывём. Вельмі цьмянае ўяўленне пра грамадскі настрой, яго змены, тэндэнцыі грамадскай думкі маюць у эшалонах улады рэспублікі. І невыпадкова сацыёлагі БДУ гаварылі аб неабходнасці каардынацыі намаганняў розных сацыялагічных структур (а іх зараз нямала ў рэспубліцы) для таго, каб здзейсніць прарыў у фундаментальным вывучэнні сучаснага стану грамадства.

**Віталь ТАРАС.**

**МЫ І СВЕТ**

# За інтарэсы трэба змагацца

**Яшчэ не выпарыўся водар палітычнага шарму ад знаходжання ў Мінску дэлегацыі Савета Еўропы (СЕ) — міжурадавай арганізацыі дзеля цеснага «еўрапейскага згуртавання», а мерка «дэмакратычнай сталасці» Беларусі на наданне ёй статуса «спецыяльна запрошанай» у СЕ вымагае самакрытычнага погляду.**

**Як вядома, Савет Еўропы, куды, апроч нашай рэспублікі, хочуць патрапіць Арменія, Украіна, Азербайджан і інш., канцэнтруе сваю дзейнасць на пытаннях правоў чалавека, гуманітарнага, прававога і сацыяльна-эканамічнага супрацоўніцтва, культуры, ЭКАЛОГІІ І ІНФАРМАЦЫІ (выдзяленне маё. — АЎТ.). Вядома ж, да паўнапраўнага членства ў СЕ нам яшчэ вельмі далёка, а на прадстаўніцтва рэспублікі ў якасці «спецыяльна запрошанай» грэх не разлічваць.**

**Тут, вядома, узнікае цэлы шэраг пытанняў, якія трэба вырашаць, «падцягваць» да сапраўды еўрапейскіх стандартаў. Аднак рабіць гэта трэба не дзеля пратакола і дамарослай паказухі, а з будзённай прагавітасцю справы, пачуццём пастаянства і чыннай сталасці. І не перакладваючы на заўтрашні дзень.**

**Вось толькі адзін свежы прыклад, які, на жаль, сведчыць пра адваротнае. 3 чэрвеня, як вядома, у Рыо-дэ-Жанейра адкрылася Канферэнцыя ААН па навакольным асяроддзі і развіцці. Па сутнасці, гэта першы ў гісторыі міжнародны экалагічны і эканамічны форум на вышэйшым узроўні, дзе, магчыма, будзе прынята «Хартыя Зямлі» — дэкларацыя аб галоўных прынцыпах паводзін дзяржаў, якія б гарантавалі чысціню навакольнага асяроддзя. Прапануецца таксама праект «Парадку дня XXI» з міжнароднай стратэгіяй і праграмай дзеянняў, будуць прыняты канвенцыі па клімаце і біялагічнай разнастайнасці. Сустрэча ў Рыо, несумненна, стане сусветным форумам у інтарэсах Зямлі. Несумненна і тое, што ўдзел Беларусі ў Канферэнцыі адпавядае як нашым карэнным палітычным і эканамічным інтарэсам, так і інтарэсам Еўропы.**

**Застаецца галоўнае — за інтарэсы трэба змагацца. Інтэлектуальна, палітычна, інфармацыйна. З гэтага пункту погляду паглядзім на склад дэлегацыі. Едуць у Рыо кіраўнік парламента Станіслаў Шушкевіч, старшыня Дзяржкамітэта па экалогіі Анатоль Дарафееў, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка і супрацоўнік МЗС Аляксей Мажухоў. Каманда не столькі традыцыйная, колькі малалікая, асабліва калі браць пад увагу мерку міжнароднага прадстаўніцтва (у сярэднім колькасць дэлегацыі ад адной краіны 15—25 чалавек).**

**Мяркуецца ўдзел 175 краін-членаў ААН, дзвюх тысяч журналістаў. Лёгка падлічыць і выказаць меркаванне, што большасць дзяржаў паклапацілася пра галоснасць і прапаганду ідэй «Хартыі Зямлі». Мы ж па-ранейшаму абыходзімся без прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі, пакідаючы ім вядомы шанц з'ездзіць хіба што «ў Пухавічы».**

**Тым часам паралельна Канферэнцыі будзе праходзіць глабальны форум неўрадавых арганізацый, шэраг іншых мерапрыемстваў з удзелам прадстаўнікоў сусветных дзелавых і навуковых колаў, журналістаў і грамадскасці. Аднак, зноў жа, як ні будуць гукаць там беларускіх «нефармалаў» — не дагукаюцца. Яны засталіся дома.**

**Няма сур'ёзных падстаў спасылацца пры гэтым на адсутнасць сродкаў, валюты. Хіба нельга было дзеля прэстыжу і відавочнага прыярытэту сэканоміць на бясконцых і часам малаэфектыўных ваяжах за мяжу розных дзяржаўных чыноў, на складзе шматлікіх дэлегацый, на якія выдаткоўваюцца тыя ж немалыя сумы дзяржаўных грошай?..**

**Можна сказаць, калі на тое, і пра падрыхтоўку ў Рыо Дзяржаўнага (Нацыянальнага) даклада аб стане прыроднага асяроддзя ў РБ. Мала таго, што яго змест, якасць і ўзровень аналізу, паводле не самых высокіх крытэрыяў, ледзьве дасягаюць горшых узораў справаздачы, дык ён яшчэ і спазніўся траха не на паўгода, што відавочна супярэчыць агульнапрынятаму пратаколу міжнароднай сустрэчы ў вярхах. Варта жалю, што ні ў навуковых колах рэспублікі, ні ў шэрагу грамадскіх экалагічных суполак і арганізацый даклад не стаў прадметам зацікаўленага абмеркавання, выспяваў у кабінетных цяпліцах ведамаснага «падполля» і таму не можа пацвердзіць ролю інтэгруючага экалагічна-грамадзянскую свядомасць дакумента.**

**Экалогія і інфармацыя — рэчы, якія безумоўна паказваюць на дэмакратычную сталасць любой краіны. Без імкнення штодня працаваць на свой палітычны, эканамічны, інфармацыйны імідж не суцяшае і перспектыва рэспублікі быць «спецыяльна запрошанай» хоць у СНД, хоць у СЕ...**

**Валерый ДРАНЧУК.**

# КПБ=ПКБ?

## Пасляслоўе да аднаго судовага працэсу

Недзе, здаецца, у кастрычніку мінулага года ў рэдакцыю пазваніў наш чытач з Вілейкі і паведаміў, што ў будынку былога райкома КПБ адбыўся сход членаў КПСС, на якім былі абраны дэлегаты, як ён сказаў, на нейкі з'езд камуністычнай партыі.

— Што ж гэта робіцца? — з абурэннем пытаўся чытач. — Дзейнасць КПСС-КПБ Вярхоўным Саветам Беларусі прыпынена, уся яе маёмасць, у тым ліку памяшканні, узяты органамі ўлады пад ахову, апячатаны, а нашым партыйным наменклатуршчыкам ніякія законы не пісаны, яны па-ранейшаму адчуваюць сябе гаспадарамі...

Я тады пазваніў Генеральнаму пракурору рэспублікі М. Ігнатовічу і расказаў пра званок з Вілейкі. Мікалай Іванавіч у адказ сказаў:

— Я магу вам прачытаць па тэлефоне цэлы спіс гарадоў рэспублікі, дзе ў памяшканнях былых партыйных камітэтаў прайшлі аналагічныя сходы.

— І як на гэта зрэагавала мясцовая пракуратура? — пацікавіўся я.

— Арганізатары гэтых «мерапрыемстваў» строга папярэджаны, — адказаў Генеральны пракурор.

Тым не менш, на пачатку студзеня 1992 года ў Мінску адбыўся ўстаноўчы з'езд так званай партыі камуністаў Беларусі, на якім былі прыняты статут і праграмная заява, іншыя пастановы і рэзалюцыі. На з'ездзе быў абраны палітвыканком з сустаршынямі У. Сямёнавым, А. Лашкевічам, В. Чыкіным, якія да жнівеньскіх падзей мінулага года былі адпаведна першым сакратаром Гродзенскага абкома, сакратарамі Мінскага абкома і Мінскага гаркома Кампартыі рэспублікі. Яшчэ адным сустаршынёй стаў І. Каратчэня, народны дэпутат Беларусі (дарэчы, пры размеркаванні абавязкаў паміж сустаршынямі яму «дастаўся» ці не самы адказны ўчастак — «узаемадзеянні палітвыканкома з фракцыяй Вярхоўнага Савета з ліку народных дэпутатаў - камуністаў і тых, хто падтрымлівае ПКБ»).

Далей падзеі разгортваліся наступным чынам. 16 сакавіка г. г. Міністэрства юстыцыі рэспублікі адмовіла ПКБ у рэгістрацыі, матывуючы сваё рашэнне цэлым шэрагам прычын, галоўная з якіх — партыя камуністаў Беларусі не з'яўляецца новай партыяй, па сваіх мэтах і задачах яна нічым не адрозніваецца ад былой кампартыі Беларусі, дзейнасць якой прыпынена вышэйшым органам улады рэспублікі.

14 мая судовая калегія Вярхоўнага суда Беларусі, разглядзеўшы скаргу ПКБ на Мінюст рэспублікі, абавязала апошні зарэгістраваць партыю камуністаў ва ўстаноўленым парадку...

Зараз, перагортваючы блакнот з занатоўкамі, зробленымі на тым, фактычна палітычным, працэсе, амаль не заўважаным, на жаль, шырокай грамадскасцю, я зноў і зноў прыходжу да сумнай высновы: прагнозы многіх дэмакратычных публіцыстаў аб тым, што камуністычная партыя ўжо ніколі не акрыяе, былі прадыктаваны больш эйфарыяй, спароджанай разгромам ГКЧП, чым цвярозым аналізам сапраўднага становішча спраў. Пра гэта думалася і ў час выступленняў на працэсе, нагаданага вышэй А. Лашкевіча і члена палітвыканкома партыі камуністаў, старшыні Савецкага райсавета народных дэпутатаў г. Мінска С. Калякіна, якія прадстаўлялі на судзе інтарэсы ПКБ. Былая камуністычная наменклатура, пераадолеўшы разгубленасць і страх, што апанавалі ёю пасля роспуску КПСС, пачала супакойвацца і зараз, пусціўшы ў ход напрацаваныя гадамі палітычны авантурызм, напорыстасць і непераборлівасць у сродках для дасягнення пастаўленай мэты, імкнецца аднавіць страчаныя пазіцыі «кіруючай і накіроўваючай».

Цяперашнія камуністычныя лідэры нядрэнна авалодалі майстэрствам мімікрыі, разумеючы, што КПСС-КПБ канчаткова скампраметавала сябе ў вачах народа, а таму на словах гатовы падтрымаць дэмакратычныя пераўтварэнні ў дзяржаве. Вось чаму Лашкевіч і Калякін з такім імпэтам пнуліся даказаць, што ПКБ карэнным чынам адрозніваецца ад сваёй папярэдніцы — кампартыі Беларусі, хоць бы ўжо ў тым, што дэкларуе шматпартыйнасць, плюралізм думак, іншыя дэмакратычныя свабоды. А наогул, у іх выступленнях было нямала спасылак на законы рэспублікі, якія быццам бы парушыў Мінюст, адмовіўшы ПКБ у рэгістрацыі. Дзіўна было гэта слухаць ад прадстаўнікоў камуністычнай партыі (А. Лашкевіч адзначыў на судзе, што фармальна па-ранейшаму з'яўляецца сакратаром Мінскага абкома КПБ, бо ніхто яго з гэтай пасады не здымаў), якая на працягу ўсёй сваёй гісторыі ўпарта дэкларавала адноснасць любых юрыдычных законаў — законна толькі тое, што адпавядае яе інтарэсам, якая распраўлялася з іншадумствам, як з самым страшным злачынствам.

Дык адрозніваецца ў нечым ПКБ ад КПБ? У падшытай да судовай справы (прачытаць яе мне ўдалося толькі пераадолеўшы пэўнае супраціўленне некаторых членаў Вярхоўнага суда) «Праграмнай заяве», прынятай устаноўчым з'ездам ПКБ, чорным па белым напісана: «Мы, дэлегаты ўстаноўчага з'езда партыі камуністаў Беларусі, заяўляем, што ПКБ уступае на арэну палітычнай дзейнасці ў якасці правапераемніцы КПБ і бярэ на сябе адказнасць за камуністычны рух работнікаў наёмнай працы і іх саюзнікаў на тэрыторыі Беларусі... Захоўваючы лепшыя традыцыі КПБ — праверанага справай атрада КПСС, ПКБ у той жа час рашуча адмяжоўваецца ад службовых асоб КПСС-КПБ, якія скампраметавалі партыю, здрадзілі яе камуністычным ідэалам». Нягледзячы на крытыку ананімных «здраднікаў», накіраванасць і сутнасць «новай» партыі гранічна відавочныя. Адным словам, крамка гандлюе тым жа таварам, толькі шыльду змяніла...

Здавалася б, безнадзейная для «новых» камуністаў сітуацыя. Але і тут яны пачынаюць выкручвацца. С. Калякін зачытвае іскавую заяву ПКБ, дзе па гэтым пытанні гаворыцца наступнае: «Сцвярджэнні Мінюста аб тым, што ПКБ абвяшчае сябе правапераемніцай КПБ і заявіла прэтэнзіі на яе маёмасць, не мае адносін да пытання рэгістрацыі партыі і, акрамя таго, не адпавядае сапраўднасці. Так, у частцы 2 пункта І рэзалюцыі ўстаноўчага з'езда «Аб стварэнні ПКБ» запісана: «У выпадку, калі дзейнасць КПБ не будзе аднаўлена, або калі яна будзе ліквідавана, ПКБ становіцца яе правапераемніцай... На сённяшні дзень КПБ не забаронена і не ліквідавана, у сувязі з чым пытанне аб пра-

**(Працяг на стар. 4).**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# АДРАДЖЭННЕ: вяртанне да вяршынь ці дабудова нацыі?

У лістападзе 1991 г. ў Маскве святкавалася 20-годдзе канцэртнай залы «Расія». Значнае грашовае ахвяраванне на ягонае аднаўленне зрабіў «Беларускі тэатр Ціхановіча і Паплаўскай» (так яго прадставілі). У спадара Ціхановіча быў вельмі разгублены выгляд, калі вясёлы вядучы спытаўся ў яго, адзінага нерасійскага спонсара, у якой валюце ён робіць унёскі, дадаўшы, што яго цікавіць назова будучай беларускай валюты. Падалося, што спадар Ціхановіч упершыню пачуў гэткае...

**Што казаць, нагода гэтая нязначная, але выклікае даўжэзны ланцуг думак-пытанняў. ПЕРШАЕ. Ці слушна гэткая зычлівасць, калі Расія адмяняе канцэрт памяці М. Багдановіча ў Маскве («святкуйце на Беларусі»), Массавет не дае сродкаў на беларускія імпрэзы («няхай дае Беларусь»), а мы ўсё часцей чуем па розных нагодах: «Не падабаецца, ад'язджайце на Беларусь!» Цікава, ці кажуць так на Беларусі расіянам?**

**Другое.** Ці слушна лічыць **беларускім** усё, што знаходзіцца на Беларусі альбо зыходзіць з яе?.. Украінцы па-за межамі Украіны ставяцца адзін да аднаго вельмі спрыяльна. Прыгадваю, як два гады таму падчас пікетавання былога Мінатамэнерга ў гадавіну чарнобыльскай навалы прадстаўнікі пікетчыкаў былі запрошаны для размовы да тагачаснага намесніка міністра. Высветлілася, што ён украінец, і далейшая гутарка йшла толькі паміж імі і «рухаўцамі», яго ідэйнымі праціўнікамі, але перадусім — супляменнікамі. Украінскія суполкі заўжды атрымлівалі дапамогу ад урадавых і камуністычных устаноў, калі там знаходзіўся хоць бы адзін украінец...

Калі я ўжо згадаў украінцаў, дык трэба адзначыць, што на Украіне нават у час наймацнейшага вынарадавання можна было ўсюды спаткаць людзей у вышытых сарочках, прынцыпова размаўляўшых толькі па-ўкраінску. І іх віталі іншыя людзі. Паспрабуйце на Беларусі адшукаць у крамах нацыянальную сарочку — яны выробляюцца толькі па «спецзаказах». Летась мы святкавалі Купалле разам з прыбалтамі: яны ўсе ў нацыянальных строях, а з нашых адно ў двух былі гэткія (адну падаравалі эмігранты з «Васілька»).

**ТРЭЦЯЕ. Ці мае дачыненне да беларускай культуры сучасная творчая і мастацкая інтэлігенцыя Беларусі? Думаю, што, апрача малой часткі яе, — ніякага, нават калі апранаецца ў нацыянальную вопратку. Здаецца, чым вышэй ранг мастака, спевака, кампазітара, тым далей ён ад беларускай глебы. І тым мацней у ім трымаецца саўдэпаўская ментальнасць.**

**Чацвёртае.** Калі творчая інтэлігенцыя авалодала, прынамсі, рускай ці нават сусветнай культурай (скажам, пяюць арыі з рускага ці італьянскага рэпертуару), дык інтэлігенцыя нятворчая (тэхнічная, службовая і інш.), — ані руская, ані беларуская. А хтосьці са славутых сказаў: «Якая інтэлігенцыя, такі і народ»...

Згадваю аднаго свайго сваяка, высокаадукаванага чалавека, галоўнага канструктара, выпускніка яшчэ даваеннай (!) беларускай школы. Ён цалкам забыўся на мову, на нацыю, і прызнаваўся, што ён беларус, толькі калі выказваўся нецэнзурна: «Как говорят по-нашему, по белорусски, мать-твою-перемать»...

Альбо другая разнавіднасць інтэлігенцыі — афіцэры. Зараз Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў прывабіла да сябе ў Маскве шмат афіцэраў, чым надта ганарыцца. Але ніводзін з іх не гаворыць па-беларуску, не цікавіцца беларускай ідэяй, нават не падзяляе імкнення да нацыянальнага войска. Як жа яны будуць выхоўваць жаўнераў?! (Праўда, супакоіўшыся, трэба пагадзіцца з кіраўнікамі згуртавання: добра і тое, што яны прыйшлі да нас, а не да «маёра Савецкай Арміі»: ёсць надзея на перавыхаванне).

**ПЯТАЕ. Ці магчыма зараз у кароткі тэрмін узняць узровень нацыянальнай самасвядомасці беларусаў да ўзроўню суседзяў? Альбо: ці магчыма зараз перанесці ўвагу людзей з матэрыяльнай у духоўную сферу? Лічу амаральным з боку вядомых дзеячаў упікаць людзей за тое, што яны «ставяць кілбасу вышэй за мову». Можна зрабіць гэткі дакор тым, для каго моўная ці культурная праца ёсць службовы абавязак, — але недапушчальна папракаць якую-небудзь маці-адзіночку з заробкам у чатыры сотні рублёў у занядбанні мовы. Зразумела, тыя дзеячы пражылі жыццё і «зрабілі імя» ў варунках, калі змаганне за захаванне нацыянальнай культуры было вяршыняй легальнага дысідэнцтва. Але зараз іншы час, мы перабудоўваем жыццё, а яго суцэльнае, і КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭННЕ НЕПАРЫЎНА ЗЛУЧАНА З САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫМ.**

Адсюль **шостае** і апошняе пытанне: што ёсць Адраджэнне? Звычайна пад ім разумеюць **вяртанне** да вышынь росквіту беларускага духу ў літаратуры, палітыцы і г. д. Эканоміка не прыгадваецца, але ж умовы XVI стагоддзя непараўнальныя з умовамі XX ст.! Відаць, трэба ўсё ж разважаць не пра Адраджэнне да нейкага нявызначанага ўзроўню, але пра **дабудову** нацыі. Бо яе фармаванне было ў нейкі час прымусова прыпынена ці, дакладней, надта замаруджана і таму не скончана дасюль. Таму беларусы так лёгка адыходзяць да другіх народаў: яны не адчуваюць пад сабой трывалай глебы — гістарычнай ці, напрыклад, літаратурнай, як, скажам, рускія, немцы альбо кітайцы. Гэтую скарбніцу трэба яшчэ **стварыць.**

Але хто павінен гэта зрабіць і ў які тэрмін? Лідэраў новай эпохі трэба шукаць не ў прэзідыумах, а на студэнцкай лаве і ў аспірантуры. Гэта будуць «нацыяналісты» ў паправдзе рацыянальным (па С. Дубаўцу) сэнсе гэтага слова, бо «нацыяналіст» ёсць таксама «народнік». (Дарэчы, палякі не ўжываюць гэтага слова (нацыяналіст); у іх не «нацыя», але «народ», не «нацыянальны», але «народовы»). «Нацыяналіст» ёсць ганебнае слова толькі ў вуснах савецка-бальшавіцкіх ідэолагаў, сароміўшых ідэйных праціўнікаў.

Ацэньваць скутак дзейнасці людзей трэба адно з пункту гледжання, якую карысць даў ён свайму народу. У гэтым звязку можна параўнаць, хто больш каштоўны для Радзімы: Пётр Машэраў ці Радаслаў Астроўскі? Не вызначаючы наперад вынік, але і без шораў. Дапушчальна ганарыцца службай свайму народу, Беларусі, але не Сталіну, Гітлеру, Чынгісхану, Напалеону і г. д. Таксама апраўданы любы палітычны саюз на карысць Беларусі. Чаму, напрыклад, не пасябраваць з Германіяй? Яна ў стане дапамагчы эканамічна...

Які ж скутак гэтага разважання? Трэба выпрацоўваць «новае мысленне». Засяродзіць увагу на «выхаванні выхавальнікаў»; ствараць моцны і трывалы шыхт свядомых, адданых і адукаваных беларусаў, у першы чарод настаўнікаў, інжынераў, афіцэраў, аграномаў, лекараў. Прыняць, што справа Адраджэння — чын доўгіх гадоў; усвядоміць, што зараз такіх выхавальнікаў замала, каб імкнуцца да хуткага перавыхавання ўсяго народа.

Абавязкова трэба злучаць духоўнае выхаванне са штодзённай эканамічнай працай. Сёння ніводзін рух на Беларусі не мае дасканалай эканамічнай праграмы, а калі мае, дык шырокія колы не ведаюць яе. (Таму БНФ часта блытаюць з ТБМ, асабліва ў глыбінцы). Без сацыяльна-эканамічнай дзейнасці Адраджэнне будзе заклятым, як гісторыя Старажытнага свету.

Галоўнае — не сварыцца. Можна спрачацца па прыватнасцях, але трэба пагадзіцца ў галоўным: ратаваць Беларусь.

**Алесь ДРАЯНКОЎ,**
**старшыня Рады**
**Маскоўскага таварыства**
**беларускай культуры**
**імя Ф. Скарыны.**

# СПАДНІЦЫ... НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

Калі я наведваў у майскія дні кнігарні Мінска, мне хацелася, вобразна кажучы, выць, як у піліпаўку воўк. Мяркуйце самі: у адных кнігарнях аддзелы беларускай літаратуры адметныя... пустымі паліцамі (напрыклад, кнігарня «Цэнтральная», праспект Ф. Скарыны, 19), у другіх аддзелы беларускай літаратуры наогул знікаюць (кнігарня № 6, вул. Кірава, 3), а на іх месцы з'яўляюцца аддзелы для абслугоўвання нуварышаў (ад французскага «нуво рыш» — новыя багацеі). Яны нагадваюць ці не амерыканскія супермаркеты на фоне нашай убогай рэальнасці.

Такога крайне крызіснага становішча з беларускамоўнай літаратурай яшчэ не было ні пры адным складзе Вярхоўнага Савета рэспублікі, як бы адмоўна ён ні ставіўся да беларускай мовы. Думаю, што гэты мой закід дойдзе і да цяперашняга Старшыні вярхоўнай улады рэспублікі, які да таго ж з'яўляецца сынам вядомага беларускага паэта. Вядома, нельга вінаваціць у гэтым становішчы толькі С. С. Шушкевіча, але менавіта ён павінен спытаць з вінаватых, бо нацыя ніколі не даруе бяздзейнасці ў гэтым пытанні.

Менавіта тут заселі нядобразычліўцы беларушчыны, бо менавіта яны ў адказе за тое, што мы бачым на паліцах нашых кнігарань. А да таго, што бачым, мы даўно ўжо прывыклі, і нам ужо не моташна ад голых азадкаў.

Чым абгрунтаваць гэта? Абгрунтую на сваім прыкладзе.

**У свой час выдавецтва «Навука і тэхніка» прапанавала мне напісаць дапаможнік па міжнароднай мове эсперанта. Я яго напісаў, як было дамоўлена, на беларускай мове, хоць і з вялікай цяжкасцю, бо і школу і інстытут, вядома ж, заканчваў на рускай мове. Пры абмеркаванні тыражнасці я прапанаваў выдаць кнігу тыражом 30 тысяч паасобнікаў, бо адпаведных дапаможнікаў нават на рускай мове немагчыма знайсці ў свабодным продажы, а на беларускай дапаможнік па міжнароднай мове наогул будзе выходзіць упершыню, ды і цікавасць да эсперанта ў рэспубліцы даволі высокая. Выдавецтва вырашыла выдаць кнігу тыражом 10 тысяч паасобнікаў. Аднак аб'яднанне «Белкніга» «зарэзала» тыраж, заказаўшы толькі дзве тысячы, бо кніга выходзіць на беларускай мове.**

**Калі ж я звярнуўся да загадчыцы кнігарні № 42 (праспект Ракасоўскага, 114) з пісьмом-заказам на тысячу паасобнікаў маёй кнігі, дык яна праз некалькі дзён пасля кансультацый з супрацоўнікамі «Белкнігі» наогул адмовілася прыняць ад мяне заказ хоць бы на мінімальную колькасць, спаслаўшыся менавіта на «Белкнігу».**

Я пішу гэты ліст не таму, што непакоюся пра лёс менавіта сваёй кнігі. Я непакоюся пра лёс беларускамоўнай кнігі наогул (не толькі беларускіх пісьменнікаў), і таму заклікаю: ратуйце беларускую мову і беларускамоўную кнігу ў дзяржаве, якая абвясціла менавіта беларускую мову — дзяржаўнай.

**А. ПАЎЛЮКАВЕЦ.**
г. Мінск.

# БЕЛАРУСЬ—КРАІНА ЦІ НЕ?

**«Дзіўнае пытанне», — скажа жыхар Рэспублікі Беларусь. Скажа, але, на жаль, не кожны. Нават вядучая папулярнай перадачы «Радыёфакт» Алена Швайко хуценька паправілася, калі назвала Беларусь нашай краінай. Трэба было, маўляў, сказаць «наша рэспубліка».**

**Аб такім вось сумным «радыёфакце» даведаўся я раніцай 27 мая г. г. і падумаў: калі ў вачах паважанай вядучай мая Беларусь як бы яшчэ не краіна (дзякуй, што ўжо не «Северо-Западный край»), то дзе ж я жыву? У Расіі, ці што? Бо СССР амаль паўгода, як няма, а СНД — не дзяржава.**

**Я не прыхільнік таго, каб пасля кожнага «пракола» кідаць каменем у журналістаў. Тым больш у тых, хто працуе ў прамым эфіры. Але праз дзве гадзіны пасля «Радыёфакта», калі па той жа першай праграме Беларускага радыё абвяшчалі назву інфармацыйнага выпуску «Рэспубліка. Садружнасць. Свет», давялося ўсё-такі схапіцца за галаву: замест «садружнасць» дыктар прачытала «краіна» (інакш кажучы, прагучала ранейшая рубрыка перадачы). Зноў не ведаў, што і думаць адносна наймення краіны...**

**Камусьці ўсё гэта можа здацца дробяззю, да якой не трэба чапляцца. А ў мяне вельмі прыкры асадак застаўся на душы ад «радыёпраколаў», так бы мовіць, адной накіраванасці. Не, я не збіраюся кагосьці падазраваць у кепскіх намерах. Але хачу спытаць: мабыць, хопіць нам тужыць па мінулым, па былой імперыі, увесь час пакланяцца «старэйшаму брату».**

**Што датычыць згаданага выпуску навін, то мяне не можа задаволіць і мадыфікаваная рубрыка, пад якой ён ідзе зараз у эфір. На мой погляд, усё стане на сваё месца, калі назва перадачы будзе гучаць так: «Краіна (г. зн. Беларусь). Садружнасць. Свет». Не сумняваюся, што такая прапанова знойдзе падтрымку ў таго, хто заклапочаны справай нацыянальнага Адраджэння, для каго незалежнасць нашай Бацькаўшчыны — не пусты гук.**

**Г. ЛАГУНОВІЧ,**
**ветэран вайны, афіцэр**
**у адстаўцы.**
г. Мінск.

# КПБ=ПКБ?

(Пачатак на стар. 3).

вапераемнасці застаецца адкрытым і носіць дэкларатыўны характар».

Як гэта ні дзіўна, але члена Вярхоўнага суда В. Вышкевіча, які старшыняваў на працэсе, такое «тлумачэнне» задаволіла. І ў рашэнні судовай калегіі будзе потым запісана: «У праграмнай заяве партыі камуністаў Беларусі і рэзалюцыі «Аб утварэнні партыі камуністаў Беларусі», прынятых устаноўчым з'ездам, сапраўды ўказваецца на тое, што партыя камуністаў Беларусі «ўступае на арэну палітычнай дзейнасці ў якасці правапераемніцы Камуністычнай партыі Беларусі...» Аднак, як **вынікае з тлумачэнняў прадстаўнікоў палітвыканкома партыі А. Лашкевіча і С. Калякіна** (падкрэслена мной. — **М. З.**), пад тэрмінам «правапераемніцтва» ўстаноўчы з'езд ПКБ мае на ўвазе пераемнасць лепшых традыцый КПБ...» Цікава было б даведацца ў В. Вышкевіча і яго калег, што яны маюць на ўвазе, гаворачы пра «лепшыя традыцыі КПБ»?

Не хаваў сваіх сімпатый да ПКБ і пракурор аддзела Пракуратуры рэспублікі І. Давыдоўскі, які з пахвалой адазваўся аб імкненні партыі камуністаў стаць партыяй парламенцкага тыпу, аб яе дэкларацыях на карысць дэмакратычных свабод, шматпартыйнасці і да т. п. Ён начыста абверг сцвярджэнні Мінюста аб тым, што ў сваіх дакументах ПКБ выказвае прэтэнзіі на маёмасць былой КПБ. «Тое, што там напісана, не мае юрыдычнай сілы, з такім жа поспехам я мог бы сёння прэтэндаваць на маёмасць Ракфелера», — пажартаваў ён. Такія жартачкі...

Усплыло на судзе і нямала іншых фактаў, якія досыць поўна характарызавалі і маральнае аблічча «новай» партыі. Нават у падрыхтоўцы і правядзенні свайго ўстаноўчага з'езда яна ва ўсім трымалася традыцый і практыкі КПСС–КПБ. Зробленая Мінюстам праверка засведчыла ігнараванне ініцыятыўным камітэтам па скліканні з'езда дэмакратычных норм пры правядзенні выбарчых сходаў, выбараў дэлегатаў на з'езд. Ды і сам прыём у члены ПКБ праводзіўся (і праводзіцца) шляхам перарэгістрацыі членаў КПСС з адпаведнай адзнакай у старых партбілетах.

Паводле звестак, прыведзеных на судзе намеснікам начальніка аддзела грамадскіх аб'яднанняў Мінюста М. Сухініным, з 284 дэлегатаў, якія прымалі ўдзел у рабоце з'езда, паўнамоцтвы толькі 86 былі пацверджаны пратаколамі выбарчых сходаў, дакументамі мандатных камісій і да т. п.

Але і да гэтых шакіруючых фактаў і суддзі, і пракурор аднесліся індыферэнтна, задаволіўшыся блытанымі тлумачэннямі прадстаўнікоў палітвыканкома ПКБ, накшталт таго, што грамадскім аб'яднанням прадастаўлена права самім вырашаць нормы ўнутранага жыцця. Адносна прыведзеных Мінюстам фактаў арганізацыі выбарчых сходаў партыйнай наменклатурай на месцах А. Лашкевіч і С. Калякін выказаліся ў тым сэнсе, што няма такога закона, які б забараняў членам адной партыі прымаць удзел у стварэнні другой.

Сёння пракамуністычныя выданні, накшталт «7 дзён», «Славянских ведомостей», «Мы и время», б'юць у літаўры з нагоды рашэння Вярхоўнага суда аб рэгістрацыі ПКБ. «Мы и время», рэдактарам якой з'яўляецца сустаршыня палітвыканкома партыі камуністаў Беларусі В. Чыкін, змясціла на першай старонцы пад шапкай «Ёсць такая партыя!» (што, відаць, павінна нагадаць чытачу пра вядомую рэпліку Леніна, сказаную ім у дакастрычніцкі час у адказ на выступленне меншавіка Чхеідзе, які давёдзіў, што не ведае ў Расіі партыі, якая б мела рэальныя магчымасці ўзяць уладу) малюнак з выявай двух бегуноў, адзін з якіх з надпісам на грудзях «ПКБ» перахоплівае эстафетную палачку ў другога, пазначанага абрэвіятурай — «КПБ»... Вось так. На малюнку ўсё «сказана» прамым тэкстам. Без камуфляжу, як гэта рабілі на судзе прадстаўнікі «новай» партыі.

Такім чынам, на палітычным небасхіле рэспублікі з'явілася новая «парламенцкая» партыя. Ці не паводзе яна сябе, як тое зязюляня, якое, вылупіўшыся ў чужым гняздзе, адразу пачынае знішчаць птушанят — яго законных насельнікаў? Так яно «запраграмавана»...

**Міхась ЗАМСКІ.**

БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

# ВЫЙСЦІ З НАЦЫЯНАЛЬНАГА АНАБІЁЗУ

ГІСТАРЫЧНЫ лёс беларускага народа з'яўляецца, на думку многіх, надзвычай адметным, дзіўным і своеасаблівым. Безумоўна, у падобным меркаванні ёсць вельмі значная доля ісціны. Дык у чым жа канкрэтна выяўляецца адметнасць станаўлення і развіцця культуры, мовы беларусаў, спецыфічныя рысы нацыянальнага светапогляду і самасвядомасці беларускага народа? Адказ на дадзенае пытанне ўвогуле досыць складаны, няпросты. Думаецца, тут неабходна аб'яднанне творчых намаганняў прадстаўнікоў розных навуковых дысцыплін — гісторыкаў, філосафаў, этнолагаў, літаратуразнаўцаў і г. д. Аднак, на маю думку, пры вырашэнні праблем, звязаных з эвалюцыяй нацыянальнай свядомасці, з раскрыццём аўтэнтычных бакоў характару беларусаў, немагчыма абысціся без комплекснага, шматпланавага падыходу, у якім былі б адначасова выкарыстаны самыя разнастайныя метады і формы даследавання.

*Зыходзячы з гэтага*, немалаважнае значэнне мае так званы сацыяльна-псіхалагічны аналіз дзейнасці гістарычных асоб і асобных груп, катэгорыі насельніцтва той ці іншай дзяржавы. На жаль, калі ў большасці цывілізаваных краін Захаду падобныя распрацоўкі шырока вядуцца ўжо некалькі дзесяцігоддзяў, у нашай рэспубліцы, а ў пэўнай меры і ва ўсёй Садружнасці, на іх практычна ніхто не звяртае ўвагі, і робяцца (у лепшым выпадку) толькі першыя няўпэўненыя крокі ў такім напрамку. Да сораму сучасных вучоных, у Рэспубліцы Беларусь нават і да цяперашняга часу няма аніякіх (хоць нязначных) спроб карыстацца ў сваёй прафесійнай дзейнасці вышэйназванай метадалогіяй, не кажучы ўжо, зразумела, пра псіхалагічную школу або плынь у гістарычных даследаваннях.

Пры традыцыйным жа падыходзе (дарэчы, далёка не беззаганным) да аналізу праблем мінулага сапраўдная «карціна» гісторыі атрымліваецца нярэдка скажонай, недакладнай, а падчас і проста неаб'ектыўнай, сфальсіфікаванай. Як правіла, нашыя гісторыкі звычайна робяць асноўны ўпор на вывучэнне гісторыі розных дзяржаўных утварэнняў, даследаванні палітыка-эканамічных адносін. Пры гэтым амаль заўсёды абыходзіцца старанной той відавочны факт, што кожная дзяржава ўяўляе сабою супольнасць розных нацый і народнасцей, складаецца з мноства асоб, якія вызначаюцца пэўнымі асаблівасцямі псіхалогіі, светаўспрымання, непаўторнымі рысамі інтэлекту, сваіх інтарэсаў, схільнасцей, стэрэатыпаў у паводзінах і г. д. Да таго ж, псіхічны склад таго ці іншага народа (яго менталітэт або ментальнасць) не з'яўляецца для ўсіх часоў і эпох аднолькавым, застыўшым, а з цягам часу мяняецца, набывае нейкія новыя рысы, іншымі словамі, эвалюцыяніруе пад уздзеяннем змен у рэаліях паўсядзённага жыцця. Недарэмна ж іншы раз гавораць, што каб глыбей пазнаць гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, патрэбна зразумець «*душу народа*» ў даследуемы перыяд. Усё гэта мае выключнае значэнне, бо менавіта «народная душа» (ці «дух народа») накладае часам моцны адбітак на функцыяніраванне любой дзяржавы. З гісторыі ж вядома, што эфектыўнае, дынамічнае развіццё, або, наадварот, заняпад і пагібель цэлых імперый у значнай меры залежаць не ад нейкіх абстрактных прычын эканамічнага, палітычна-ідэалагічнага парадку, а ад духоўнага, маральнага стану, узроўню псіхафізічных характарыстык іх насельнікаў.

Цяпер, пасля кароткіх агульных разважанняў, хацелася б спыніцца на некаторых аспектах псіхалагічнага, духоўнага развіцця беларускага народа ў мінулым стагоддзі і ў наш час. У цэлым падобная дынаміка, на наш погляд, уяўляе, так бы мовіць, карціну даволі сумную. Больш таго, за выключэннем асобных непрацяглых перыядаў часу, духоўнае развіццё беларусаў мела тэндэнцыю да павольнага разбурэння (размывання) большасці маральных каштоўнасцей, традыцыйных рысаў светапогляду, паводзін беларускага народа. Якія фактары аказалі негатыўны ўплыў на духоўны стан беларусаў? На чым грунтуюцца даныя высновы?

Адназначна на такія складаныя пытанні адказаць немагчыма. Тым больш, што, паўтаруся, неабходны яшчэ рознабаковыя распрацоўкі гэтай праблемы. Аднак некаторыя думкі і меркаванні ўсё ж рашуся выказаць.

Сапраўды, фактараў (дэтэрмінант), якія накладвалі пэўны адбітак на асаблівасці псіхалогіі беларусаў, вельмі многа, прычым характар такога ўздзеяння быў нярэдка супярэчлівы. Адразу адзначым, што Беларусь у XIX ст. з'яўлялася арэнай барацьбы двух даволі моцных уплываў — польскага і расійскага. Ужо адно гэта вызначала адметнасць гістарычнага шляху беларусаў. Нават пры вонкавым разглядзе гэтай праблемы відавочна, што, канешне, уздзеянне двух супрацьлеглых фактараў не магло, у большасці выпадкаў, стымуляваць развіццё беларускай культуры і мовы. Але на самай справе ўсё было больш складаным, і таму некаторыя факты не паддаюцца адной адкладнай трактоўцы. Ды і ўвогуле неабходна разумець, што тыя фактары, якія негатыўна ўздзейнічаюць на асобны аб'ект, у іншых выпадках і пры іншых умовах могуць, наадварот, прыводзіць да пазітыўных зрухаў у іх. І гэта таксама трэба ўлічваць, каб пазбегнуць крайнасцей і аднабаковасці.

Дык вось, вядома, што асабліва з XVII ст. Беларусь знаходзілася пад моцным уплывам Польскай Кароны. У канцы XVIII — пачатку XIX ст. сітуацыя пачала мяняцца. Тэрыторыя беларускіх губерняў трапляе, пасля яе інкарпарацыі ў склад Расійскай імперыі, у сферу асаблівай увагі з боку апошняй. І ўжо далейшае развіццё беларускага народа праходзіла пры парадаксальных умовах, як бы на скрыжаванні польскага і расійскага націску. Пры Аляксандры І у значнай меры захавалася перавага польскай культуры і мовы на землях Беларусі ў сферы адукацыі, справаводства і г. д. Але з пачатку 30-х гг., у час праўлення Мікалая І, цэнтр уплыву паступова пераносіцца на рускі элемент. Немалы штуршок падобнаму пераходу дало паўстанне 1830—1831 гг. і яго хуткае паражэнне. Тады царскі ўрад надаў сваім дзеянням вядомую ідэалагічную «падкладку» ў выглядзе знакамітай трыадзінай фармулёўкі — «самаўладдзе, праваслаў'е, народнасць». У адносінах да Беларусі палітыка царызму *вялася на аснове* распрацаванай прыкладна тады ж канцэпцыі «заходне-русізму». Паводле яе, тэрыторыя Беларусі афіцыйна была аб'яўлена «Паўночна-Заходнім краем», а ўсе яе насельнікі з таго часу лічыліся «заходнерусамі». Па справядлівым меркаванні А. Цвікевіча, «заходне-русізм» на «некалькі дзесяцігоддзяў затрымаў развіццё беларускага культурнага адраджэння». Асабліва значныя практычныя вынікі рэалізацыя гэтай канцэпцыі на Беларусі прынесла ў другой палове XIX ст., пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. Менавіта тады, на нашу думку, быў нанесены найбольш магутны ўдар па самасвядомасці беларусаў, па іх самабытнай культуры, мове, па маральна-духоўным абліччы беларускага народа-пакутніка. У дадзеным сэнсе Беларусь была адкінута назад, на доўгі час былі «закансерваваны» самыя негатыўныя якасці і праявы духоўнага жыцця розных народаў, якія насялялі Беларусь. Што ж у першую чаргу маецца на ўвазе?

Перш-наперш, паступова, пад такім магутным прэсам, калі ўсё навокал было рускім, паўсюдна панавала руская мова, беларускі народ траціў увогуле яшчэ неразвітае пачуццё сваёй нацыянальнай самабытнасці, саматоеснасці і беспаваротна, здавалася, страчваў тое асноўнае, што адрознівае адзін народ ад другога, — сваю родную матчыну мову. Беларусаў афіцыйныя ўлады, польскія і расійскія вучоныя не лічылі своеасаблівым народам, а ўсяго толькі нейкім «этнаграфічным матэрыялам», «групай», «галіной», «племем» рускай або польскай народнасці. У. М. Ігнатоўскі зазначаў, што «ў Рэчы Паспалітай беларус быў працавітым быдлам», а ў Расіі ён зрабіўся «рабочым скотам». Фактычна ў гады, калі Беларусь была ў складзе Рэчы Паспалітай, а потым і Расіі, няўхільна праходзілі працэсы паланізацыі і русіфікацыі беларускага народа. Тыя часіны былі перыядам шматлікіх здзекаў і прыцясненняў беларусаў, «глумлення» над іх народнай душой (паводле М. Багдановіча).

Ужо у канцы XVIII ст., адразу пасля далучэння Беларусі да Расіі, спецыяльнымі загадамі прадугледжвалася неабходнай і карыснай замена мясцовых улад «натуральнымі», «прыроднымі рускімі» з больш высокім, зразумела, жалаваннем. У далейшым рускія чыноўнікі атрымлівалі, як правіла, і шмат іншых прывілеяў і льгот у параўнанні з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей. Да ліку падобных прывілеяў, напрыклад, адносіліся больш вялікія памеры зарплаты настаўнікам, служачым органаў улады, выдача ім лепшых казённых кватэр з ацяпленнем і асвятленнем, забеспячэнне так званымі сталовымі, раз'язнымі, кватэрнымі, прагоннымі грашамі і г. д. Адным словам, для «вернападданых» Расійскай імперыі існавала ў той час цэлая сістэма пераваг у розных сферах жыцця. Многія чыноўнікі з Расіі па сваім уласным жаданні прыязджалі на Беларусь у мэтах «нажывы» ці «пагоні за кар'ерай». *Асабліва масавы характар набыла гэтая* з'ява ў 60-я гг. XIX ст., калі ў выніку «актыўнай» дзейнасці Мураўёва-вешальніка па расправе з паўстанцамі адбылося своеасаблівае «адкрыццё» Беларусі для расійскіх грамадзян. Нярэдка настаўнікі школ, гімназій, семінарый Беларусі, а таксама паліцэйскія, міравыя суддзі, пісары, пасрэднікі ды інш. на барацьбе за «чистый русский язык» рабілі сабе нядрэнную кар'еру, прычым атрымлівалі права на павялічаныя пенсіі (300 руб. і больш), на даволі значныя зямельныя ўчасткі, на атрыманне розных узнагарод (грошы, ордэны, медалі, падзякі і да т. п.). У асноўным для чыноўнікаў рускага паходжання прадугледжвалася выдача канфіскаваных маёнткаў удзельнікаў паўстання 1863—1864 гг. На месца прыехаўшых з унутраных губерань Расіі чыноўнікаў адпраўлялі пераважна асоб, якія набылі адукацыю на Беларусі. Ім неабходна было, як правіла, адслужыць у Расіі поўны тэрмін (5—10 гадоў), пасля сканчэння якога мала хто з беларусаў ужо вяртаўся назад.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

У XIX ст. больш высокі сацыяльны статус мелі, вядома, польская і руская мовы, прычым добрыя веды апошняй з пачатку 30-х гадоў становяцца адной з галоўных умоў атрымання права на чын 14 класа (калежскага рэгістратара).

Зразумела, што ўсе вышэйпералічаныя перавагі, якія даваліся польскаму ці рускаму элементу, паступовае высвятленне ўсялякай «беларускасці» не маглі не закрануць светапогляду і адносін да падобных працэсаў часткі беларускага народа. І тут можна сказаць, што ўсебаковай дэнацыяналізацыі падвергліся пэўныя катэгорыі, слаі беларусаў, асабліва ў гарадах і мястэчках. Беларускае дваранства пачало пад уздзеяннем афіцыйнай русіфікатарскай, паланізатарскай прапаганды лічыць сваю родную мову і традыцыі «хлопскімі», «вясковымі», «ніжэйшымі» за польскія або рускія. Нярэдка беларускія па паходжанні дваране, мяшчане падкрэслівалі і ганарыліся сваім быццам бы польскім шляхецтвам на той толькі падставе, што польская культура з'яўляецца культурай «высакароднага, *вышэйшага класа*». *Страта нацыянальнай* самасвядомасці, сваёй непарыўнай прыналежнасці да Бацькаўшчыны назіралася нават і сярод сялянскага насельніцтва Беларусі. Так, яшчэ і ў 20-я гг. XX ст., калі ў рэспубліцы шырока разгарнулася беларусізацыя, далёка не выключэннем былі выпадкі, калі сяляне-беларусы лічылі сваю мову «мужыцкай», «халопскай», якая быццам бы ўвогуле «не мае будучыні». Відавочна, што пад уплывам (у большай альбо меншай ступені) палітыкі паланізацыі і русіфікацыі ў XIX — пачатку XX ст. знаходзілася немалая колькасць беларусаў.

Да ўсяго трэба дадаць, што царскія ўлады выкарыстоўвалі самыя розныя сродкі для дасягнення сваіх палітычных мэтаў — ад замаскіравана-ідэалагічных да адкрыта-рэпрэсіўных. Пры гэтым «нястрымслівымі» праваднікамі такой палітыкі з'яўляліся шматлікія чыноўнікі, паліцыя, армія і праваслаўнае духавенства, частка якога імкнулася «пераканаўча» даказаць беларусам вялікую неабходнасць поўнага падпарадкавання «акраіннай» Беларусі «вялікай матушцы Расіі». А раней многія святары, шляхціцы даводзілі да свядомасці беларусаў, што яны «сапраўдныя палякі», а Беларусь павінна, нібыта, зноў увайсці ў склад былой Польшчы «ад мора да мора». Вельмі цікава, на наш погляд, сур'ёзна заняцца нашым вучоным аналізам так званай «псіхалогіі прапаганды», г. зн. даследаваць, як, па якіх каналах і ў якой меры ідэалагічныя ўстаноўкі, фармулёўкі ўспрымаюцца масавай свядомасцю, выяўляюцца ў дзейнасці кожнага чалавека. Думаецца, гэтая тэма яшчэ чакае сваіх даследчыкаў, аднак і сёння ясна тое, якімі былі рэальныя вынікі падобных прапагандысцкіх кампаній. Усё сказанае, безумоўна, датычыць і савецкага перыяду ў развіцці Беларусі.

У такіх неспрыяльных варунках, калі «сельская паліцыя па загадзе вышэйшай улады змагалася з народнымі беларускімі звычаямі, старымі ігрышчамі і інш., саджала ў халодную сялян за народныя спевы, у якіх гаварылася аб цяжкім жыцці і дрэннай уладзе» (Е. Раманаў),

(Працяг на стар. 12).

**Віктар ШНІП**



# ВОЛЮ ЗНАЕ ТОЛЬКІ БОГ

●

**Не будзе Радасці, не будзе Свята,**
**Пакуль не раскладзём свайго агню,**
**Пакуль сваю мы не збудуем хату,**
**Пакуль з сябе не вырвем цішыню.**
**А ўжо вятры спускаюцца на поле**
**І ў неба чорнае ўздымаюць пыл,**
**І ў адзінокіх дрэў ламаюць голле,**
**І чутна лапатанне хіжых крыл.**
**А гэта д'яблы кружацца над намі**
**І шэпчуць нам: «Жывіце, як жылі...»**
**І гэты свет знявечаны людзямі,**
**І мы на смерць ляцім, як матылі.**
**Ды цішыня жыве ў нас, як зараза,**
**І мы глядзім спакойна на касцёр,**
**Дзе нас палілі з цішынёю разам**
**І мы ўзляталі з дымам аж да зор...**
**Калі ўжо свой агонь мы раздабудзем,**
**Калі сваю збудуем хату мы!**
**Відаць, усё не хутка гэта будзе,**
**Бо што мы ўмеем, акрамя турмы,**
**Зрабіць у свеце, дзе жывём часова,**
**Дзе брата не шануе родны брат,**
**Дзе ў нас забралі нават нашу мову...**
**І нам няма ні Радасці, ні Свят.**

●

**Хто з нас смяецца, гадамі**
**Гібель прарочачы нам!**
**Доўга жылі мы рабамі.**
**Сумна спяшаемся ў Храм.**

**Просім спагады у Бога.**
**Бог ці адкрыецца ўсім!**
**Вельмі грашылі мы многа,**
**Многа і сёння грашым.**

**Многа гаворым пра волю,**
**Волі не знаючы смак.**
**Знаем жабрацкую долю**
**З воляй галодных сабак.**

**Шчэ спадзяёмся, што будзе**
**Светлае Заўтра і рай.**
**Дзіўныя, добрыя людзі**
**Вераць — адродзіцца Край.**

**— Будзем яшчэ мы панамі!**
**Хочацца ў тлуме пачуць...**
**Ціха і нізка над намі**
**Д'яблы й анёлы лятуць.**

## Дома

**Дрэвы старыя і хаты старыя,**
**Сумна і ціха на вуліцы сёння.**
**Людзі глядзяць на мяне, як чужыя,**
**Людзі жывуць у нядолі ў палоне.**

**Што ім сказаць, адарваным ад свету,**
**Што абяцаць ім, не верачым Богу!**
**Што ім з таго, што я зноўку прыеду,**
**Помніць век буду дадому дарогу!**

**Маці і бацька, даруйце вы сыну,**
**Вырас я, гледзячы крамам у вокны.**
**Поўныя крамы — мы любім Айчыну,**
**Мала хто любіць Айчыну галодным.**

**Заўтра зноўку у горад паеду,**
**Буду стаяць там у чэргах стамлёны,**
**Злосна і моўчкі курыць цыгарэты,**
**Слухаць на ўладу людскія праклёны.**

**...Дрэвы старыя і хаты старыя,**
**Шэрым быллём зарастае дарога.**
**Людзі глядзяць на мяне, як чужыя,**
**Людзі баяцца чужога.**

●

**Сёння пуста ў магазінах.**
**Раздзірае сум душу.**
**Мне б з прыгожаю жанчынай**
**З'ехаць за мяжу.**
**Я сяджу ў пустой кватэры,**
**А кватэра, як турма.**
**Сёння людзі ў грошы вераць,**
**Грошай у мяне няма.**
**Мне б прадаць пра шчасце мары,**
**Ды ў людзей хапае мар.**
**І былыя камісары**
**Нам гавораць пра пажар,**
**Што ўзгарэцца можа хутка**
**На раздзеленай зямлі.**
**Багацеюць прастытуткі —**
**Не кахаюць за рублі.**
**У гатэлях зноў смяюцца**
**Чужакі й свае паны.**
**Ну а людзі ў чэргах б'юцца,**
**Азвярэўшы ад маны.**
**А па радыё далдоняць:**

---

*Сяргей Шмурыгін*



# ЯКАСЦЬ СМЕРЦІ

*апавяданне*

**Сяргей Шмурыгін нарадзіўся ў 1954 годзе ў Бабруйску. Закончыў Ленінградскую лесатэхнічную акадэмію і інстытут замежных моў. Працаваў у сельскай школе Старадарожскага раёна. Служыў у Савецкай Арміі. Зараз — інжынер аддзела дакументацыі і інфармацыі Мінскага электратэхнічнага завода. У штотыднёвіку друкуецца ўпершыню.**

МЫ ПРЫЕХАЛІ сюды, каб злавіць апошнюю рыбіну. Не апошні кілаграм ці, скажам, пуд, калі ў вас прызапашана сетка, тол альбо атрута, а апошнюю рыбіну. Ёсць амаль што дакладныя звесткі, што гэта мае быць шчупак. Кіло пад дзесяць. А можа, і больш, з пуд. Так кажуць мясцовыя жыхары. Старэйшы навуковы супрацоўнік на блакітным «масквічы» называе іх абарыгенамі. Яго самога мы завём Трафікам.

Ужываць тол, атруту ці сетку, вядома, забаронена. Увесь час было забаронена, але заўжды ўжывалі. А цяпер ужо ўсё роўна. Апошняя рыбіна і сама здохне: жэрці ёй няма чаго. Трэба хутчэй узяць яе і рушыць у новыя мясціны. Ёсць амаль што дакладныя звесткі, што ў Ціхім з'явіліся падлешчыкі. Знаёмцы паведамілі. Яны сетку там ставілі і здабылі кіло сем. Добрыя падлешчыкі — грамаў па трыста. Цяперашнім часам гэта рэдкасць.

На паўднёвым беразе ўжо кастры засвяціліся. Мы ж заўсёды на паўночным стаім. Тут менш народу таўчэцца, бо падыход да вады забалочаны крыху, але мы прывыклі.

Першы вечар заўжды самы прыемны. Разбілі лагер ля старога папялішча. З возерам мы даўно знаёмы, гадоў пятнаццаць. І амаль заўсёды спыняемся тут, на поўночным беразе.

Наогул кажучы, рыбакі звычайна стараняцца адзін аднаго. Разыходзяцца, расплываюцца паасобку. Кожны адпачывае па-свойму. Але сёння здарылася надзвычайнае. Толькі пачалі мы лодкі надзімаць, падбег незнаёмы, у бярэце. «Пайшлі, — крычыць, — на старой базе сход збіраецца». Бачым, сапраўды: і лодкі з возера да старой прыстані кіруюць, і Трафікаў «масквіч» асцярожна падпоўз. Сёння пятніца, народ толькі пачаў збірацца. І ўсё прыезджыя. Абарыгены даўно на рыбалку рукой махнулі...

Карнет каля лодак-гумовак застаўся, а я і Лоб да базы пайшлі, паглядзець, што там такое будзе. Можа, інфармацыю якую аб'явяць, а можа, шчупака таго ўжо спаймалі, тады мяняць трэба планы — рыбіна гэтая тут апошняя.

Наблізіліся мы, бачым — чалавек дваццаць сабралася, а на слупок ад паламанай лаўкі Дацэнт узлазіць. Гэта напарнік Трафікаў, часта разам выязджаюць. Відаць, выпіць яны паспелі ўжо, занадта ўзрушаны ён быў, запальчывы. Спачатку і незразумела было нават, пра што ён гаварыў са слупка. Тыя, што паблізу стаялі, зараўлі незадаволена. Потым ціха стала, і мы сёетое пачулі.

— Дакажам, — крычаў Дацэнт, — пацвердзім сваю кваліфікацыю. Спартсмены мы ці хто?

— Пойдзем, — кажу я Лобу, — няма чаго гэтага эксгібіцыяніста слухаць. Мы сюды не на мітынгі-лозунгі прыехалі.

— Чакай, — кажа Лоб, — ён жа пачэснаму рыбіну злавіць прапануе.

— Па-чэснаму? Гэта як? — уголас здзівіўся я. — На бляшню? Ці як? — І задумаўся. А Лоб зароў: «Гарантыі! Дзе гарантыі?» Ён хутка ўсё зразумеў, і, пакуль я даходзіў да сутнасці, рушыў далей. Трэба было пераканацца, што ўсе будуць у аднолькавых умовах, і ніхто ніякай снасці, акрамя спінінга, у рукі не возьме. А сумнявацца былі падставы. Цымбалаўскай кампаніі, напрыклад, хіба можна верыць? Вунь, пяцёра іх, ці шасцёра. Вынаходлівая публіка! Збіраліся, напэўна, усім калектывам сетку закінуць. Гэткай колькасцю браць — шанцаў куды больш.

На слупок тым часам другі прамоўца ўзлез. Усе міжвольна наструніліся — убачылі інспектара Ерафеева. Нават цымбалаўскія быццам у строй пасталі. Рэфлектыўна, вядома, аўтаматычна. Якія там з Ерафеева вартавы, калі ён кожную пятніцу-суботу настолькі дармовай напіваецца, што й да лодкі не заўсёды дойдзе, — так і спіць на зямлі каля таго касцярка, дзе яго рашаючая чарка паваліць... Але ў той момант яшчэ цвярозы быў Ерафееў, на выгляд, ва ўсякім разе, і марку трымаў старанна.

Карацей кажучы, даў інспектар гарантыі. Сваёй асобай гарантаваў ды «казанкай» з маторам.

— Я заўжды закону служыў, — сказаў ён, — а заўтра вам паслужу супраць вас саміх жа, супраць натур вашых нялюдскіх...

Доўгая была ў нас вячэра. І нязвычная. Больш моўчкі сядзелі, хоць і выпілі. Гаворка ішла ўсплёскамі, не было прывычнае гарачлівае ажыўленасці. Ціха стала і цёпла. Возера прытаілася, нячутным зрабілася зусім, быццам і не існавала. Толькі подых сырасці выдаваў яго. Падышоў Ерафееў, але не засядзеўся. Прыняў дзяжурную чарку, пажаваў сала, сказаў, што ўвосень яму «чыстым чынам» на пенсію, і пайшоў.

Ноч упала на возера Светлае, цёмная ноч. Карнет спаў, ён функцыянальны: зранку першым устане і раней за ўсіх на ваду выйдзе. Лоб прадзімаў папяросы, курыў, я таксама не спаў. Мы стрэсвалі попел у бляшанку з-пад кансерваў, маўчалі. Мы прыехалі сюды, каб злавіць апошнюю рыбіну, і мы яе заўтра зловім.

Вядома, раніцай першым устаў Карнет. Ён ужо чвякаў на беразе помпай, калі мы з Лобам павыпаўзалі з палаткі. Лоб старанна выцер лодку мокрай анучай, што рабіў зранку вельмі рэдка. Падпампаваўшы лодкі, мы, не згаворваючыся, вярнуліся да палаткі, налілі і выпілі, чаго раніцай раней ніколі не рабілі. Мы маўчалі, адзін на аднаго не глядзелі і сустрэліся вачыма толькі пасля таго, як апаражнілі шклянкі. Калі б у нас былі з сабою белыя кашулі, мы б іх, пэўна, апранулі.

Некалі назвалі возера Светлым. Відаць, за празрыстую ваду ды белы пясок. Лоб першым з нас пабыў тут, і яго поўны эпітэтаў расказ быў уторканы клічнікамі. Лоб не маніў, рыбацкі апавяд — жанр спецыфічны. Нельга перапыняць рыбака, калі ён гаворыць аб сваім запаветным занятку, крыўдзіць яго недаверам. Рыбак не хлусіць, ён апавядае пра святое, і гэта заўжды праўда. Прэч, малаверы, адыдзіце, дайце мне сказаць, а жадаючых пачуць пра возера Светлае! Пра вялізных, магутных, нястрымных сазанаў, што выскокваюць з вады насустрач ранішняму сонцу. Пра тоўстых кілаграмовых красналёрак з малінавымі плаўнікамі. Пра вусатых залатых ліняў велічынёй з добрую міску. Пра чорна-карычневых мускулістых вугроў з сінімі палеазойскімі вачыма. Пра акунёў з паласатымі бакамі і жоўтым тлустым пузам. Пра шчупакоў — бадзёрых, моцных, прагных шчупакоў...

Гэтакім было возера Светлае. Люстраная гладзь, прыбярэжныя водмелі за паласой чаратоў, лясістыя схілы...

Я выплыў на вялікую ваду. Туману няма, усё праглядваецца. Карнет ужо адплыў даволі далёка. На вадзе лодак шэсць-сем. Тарахціць матор: Ерафееў, трацейскі суддзя, забяспечвае гарантыі. Ззаду хлюпае вёсламі Лоб. Пара адпускаць бляшню.

Спінінг з катушкай і бляшнёй ды падхватнік—толькі гэта прызначана ўдзельнікам па ўмовах канвенцыі. Кожны выняў любімую, удачлівую, правераную бляшню, кожны на яе папляваў. Пераможцу ў распачатым спаборніцтве наканавана доўга жыць у рыбацкіх байках. Злавіць апошнюю рыбіну —гэта не жартачкі, тут і шчасце сваё праверыш, і майстэрства спатрэбіцца.

Шчупакоў я перабачыў за свой век, ведаю іх звычкі і ўвесь набор іх хітрыкаў. Падхватнікам браў і проста рукамі з вады таксама даводзілася. І ўпускаў, бывала, і рукі выпадала рэзаць. Але ў лоўлі на «дарожку» я мастак, гэта ўсе прызнавалі, з кім рыбачыць даводзілася. І закінуць умею, і правесці дакладна там, дзе намеціў, і ведаю, дзе рыба стаіць. Сёння, вядома, параграф асаблівы, рыбіна аднюткая, паспрабуй яе адшукаць. І буйная, калі абарыгены не хлусяць. Штука проста міфічная, Нэсі нашых вод. У вадзе рыбіну ацаніць цяжка, нават калі выпадзе, што і ўбачыш яе. А такое здараецца. Наколькі вялізны шчупак пацягне — нялёгка вызначыць, пакуль не ўзважыш.

Лоб і я ўбачылі яе адначасова. Лоб гучна мацюкнуўся ад здзіўлення, і я зразумеў, што ён таксама ўгледзеў. Дык вось чаму мясцовыя хлопцы так дэталёва апісвалі шчупака! У ягонай спіне тырчалі восці. Абламанае драўлянае дзяржанне рэзала ваду, нібы перыскоп ці акулавы плаўнік. Гэткае я бачыў упершыню. Мабыць, нехта спрабаваў накалоць рыбіну, калі яшчэ лёд стаяў. А, можа, яе прывабілі святлом, калі лёд ужо сышоў. Ды схібіў абарыген, — рука здрыганулася з пахмелля ці падгніло дрэўка. Але гэтаму шчупаку нядоўга жыць. Колькі дзён ён носіць у тулаве сталёвыя зубцы? І што жарэ? Апошняя водная жыўнасць усплыла кверху пузам паўтара месяца назад, калі падселі слупы і абярнулася аміячная цыстэрна на заходнім беразе. Тухляціну ці, можа, вадаплаўных? Як бы там ні было, ён павінен кінуцца на першую ж бляшню. І кінецца, калі сапраўды галодны. А сытым ён быць не можа. Але чаму ён рыскае, ды яшчэ так блізка ад паверхні? Зразумеў, усвядоміў, што марна, бясплённа таіцца ў засадах? Не дае спакою боль ад трызубца, убітага ў чорны цвёрды хрыбет? Знямогся і не мае сілы, каб пайсці ў глыбіню? А, можа, ён ведае, што сёння апошні дзень, і выконвае рытуальны абход, развітваючыся з месцам, дзе прайшло жыццё, з вадаёмам, які згінуў на яго́ных вачах?

Перыскоп аддаліўся і знік з поля зроку. Я закурыў і азірнуўся на Лоба, лодка якога ішла за крокаў сто ад маёй. Ён сядзеў, кінуўшы вёслы. Другі раз за гэтую раніцу мы паглядзелі адзін аднаму ў вочы. І ў гэты момант закрычаў Карнет. То быў крык дзікага азарту, крык амаль што ненатуральны, нялюдскі. Сумненняў быць не магло— шчупак узяў яго бляшню.

Павярнуўшы левым вяслом, я разварнуўся. Чакалася відовішча. У Карнета «клюнула» — што ж, парадуемся за

**Віктар ЛУЖКОЎСКІ**



## На паверцы

Дзень стаіць мой на паверцы.
Хоць і ціш ды гладзь,
А маё ў трывозе сэрца:
Пра каго спяваць!

Пра таго, хто сыты ў «Чайцы»
Горадам плыве,
Ці таго, хто зімнім зайцам
З грошыка жыве!

Ці пра воўка, што тры скуры
За тавар дзярэ,
Хто народ умела дурыць,
Любіць лапы грэць!

Царанят, васалаў зграя,
Ледзь каго кране,
Нашы душы люта крае,
Лупіць дзень пры дні.

Лёс стаіць мой на паверцы.
Як ні запявай,
А сваё радзіме сэрца
З песняю аддай.

## Рабочыя ля Дома ўрада

Патушу, як свечку,
Я сваю бяду
І з урадам спрэчку
Сёння павяду.

Для каго мазолі
У працы набіваў,
Каб «талоннай» волі
Я пакаштаваў!

Што ж вы, дэпутаты,
Маўчыцё ў адказ!
Пелі: будзень — свята...
Свята ж не для нас.

Задыміць ці выпіць —
Бегай — не знайсці.
З душ пакору выбіць
Нам пара ў жыцці.

Праклінаць не буду
Свой парожні дзень.
Вас я перабуду!—
Рэжу напрасцень.

Не па цвіль скарынак
Выйшлі мы на брук.
Гэта — Працы рынак,
Моц разумных рук.

## Плачу і плачу

Вочы жмурыш,
Каб не бачыць —
Так высока
Цэны скачуць.
Хоць працую,
Не лайдачу,
А плачу
І плачу.

Цар-рубель
Ці быў харошым!
Стаўся ён
Гарэлым грошам.
Хоць працую,
Не лайдачу,
А плачу
І плачу.

ГУМ ды ЦУМ,
А побач рынак —
З горкай доляй
Паядынак:
Хоць працую,
Не лайдачу,
А плачу
І плачу.

Гэта ж трэба!
Адны боты —
За тры месяцы
Работы.
Хоць працую,
Не лайдачу,
А плачу
І плачу.

Махляроў
З Каўказа орды
І тузоў
Тутэйшых морды...
Хоць працую,
Не лайдачу,
А плачу
І плачу.

Цэны,
Паўлава падаткі
Нас паклалі
На лапаткі.
Хоць працую,
Не лайдачу,
А плачу
І плачу.

Хопіць дома
Нам жабрачыць!
Трэба ўсё
Як ёсць зыначыць.
Быць, не быць! —
Рашай задачу,
Каб набыць
Харчы без плачу.

## Процістаянне

Засціла свет нам
Махлярская муць
З кагортай чыноў
Дубалобай.
Крылы
Памкнешся
Шырэй развінуць —
Падрэжуць.
Дарэмная спроба!
Абвешчана сёння:
З нас кожны —
Народ;
Цярпелі —
Цярпець больш не будзем.
Хіснуўся
Дзярждач
Рассакрэчаны плот,
На плошчах
Гуртуюцца людзі.
Махляр не адзін
У спалоху прыціх,
Сасніўшы
Ляфортава краты, —
Цяпер
Не ўратуюць
У банках чужых
Рабунку таемныя спраты.
Хіба ж
Чынадралам
Належаць навек
Пасады,
Машыны,
Палацы.
Жыве,
Як і жыў,
З мазаля чалавек,
Царуе
З царыцаю Працай.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

## МЕЦЭНАТ ГУЧЫЦЬ МІЛАСЭРНА

Маё дзяцінства прыпала на час хрушчоўскай адлігі, і я добра памятаю, як тады многія аднавяскоўцы з недаверам ставіліся да партыйнай дэмакратыі. Недавер людзей да камуністычнай ідэалогіі ў хуткім часе апраўдаўся.

Добра памятаю, як напрыканцы «эры» Мікіты Сяргеевіча палалі святыя храмы, пілаваліся праваслаўныя крыжы, руйнаваліся капліцы. Гэтак камуністычная улада святкавала перамогу над Богам. Жанчыны галасілі, сціплыя вясковыя мужчыны моўчкі адварочваліся, адмаўляючыся такім чынам ад беззаконня.

Але ж як цяжка ні было, царква вытрывала, і зноў ідуць да яе вернікі, моляцца, адбудоўваюць, вяртаюць святыні да жыцця, не шкадуючы ні часу, ні сродкаў.

Вось і нядаўна некальні сотень вернікаў, якія прыйшлі на абедню ў Пакроўскі сабор, што ў Гародні, былі сведкамі неардынарнай падзеі. Святы храм наведалі прадстаўнікі сельскагаспадарчай фірмы «Амега» з Беласточчыны, якія ахвяравалі сто тысяч рублёў на аднаўленне царквы ў вёсцы Мураванка, што ў Шчучынскім раёне. Чаму менавіта на царкву ў Мураванцы? Валянцін Сельвясюк, беларус па паходжанні, кіраўнік дэлегацыі, расказаў, што па справах бізнесу яму давялося быць у Мураванцы і бачыць шчырыя намаганні веруючых людзей у справе адбудовы свайго прыходу. Спадар Сельвясюк дасканала вывучыў трагічную гісторыю храма і вырашыў дапамагчы грашовымі сродкамі ў яго аднаўленні. Гасцей за міласэрнасць падзякаваў мітрапаліт Гродзенскі і Ваўкавыскі Валянцін. З кароткай прамовай выступіў і прэзідэнт фірмы, таксама беларус, Мірaслаў Целушэцкі. Ён зазначыў, што гэта толькі пачатак дапамогі, а ўвогуле фірма «Амега» жадае стала фінансаваць разнастайныя галіны культурнага адраджэння на Беларусі.

Г. АСТРОЎСКІ,
праваслаўны гарадзенец.

# ВЫЙСЦІ З НАЦЫЯНАЛЬНАГА АНАБІЁЗУ

(Пачатак на стар. 5).

пад такім вытанчаным прэсам афіцыйнай прапаганды, цэнзуры і г. д., па-сапраўднаму ўставала пытанне не толькі аб духоўным здароўі, але нават і аб выжыванні, выратаванні беларускага народа ад дэградацыі і поўнай асіміляцыі. Іншымі словамі, пытанне практычна стаяла рубам — быць або не быць самабытнай беларускай культуры, мове і яе носьбітам. У псіхалагічным плане, на падставе аналізу ўмоў жыцця ў тыя далёкія часіны, а таксама розных прыкладаў беларускага фальклору можна сцвярджаць, што значная частка беларускага народа апынулася ў стане **нацыянальнага анабіёзу,** калі энергія, воля беларусаў былі паралізаваны, не маючы належных варункаў для свайго развіцця і практычнага ўвасаблення. У XIX ст. значна ўзмацніліся сярод беларусаў, гаворачы мовай сацыяльнай псіхалогіі, рысы канформнасці, нейкага раўнадушша, або «апатычнасці» (дарэчы, гэтая якасць беларусаў адзначалася амаль усімі дарэвалюцыйнымі даследчыкамі). Некаторыя з беларусаў у той час падаліся канфармізму, волі і меркаванням рускага ці польскага чыноўніцтва, фактычна адмовіўшыся ад усяго аўтэнтычнага і тым здрадзіўшы сваёй Бацькаўшчыне. Частка беларускага народа, разумеючы неабходнасць развіцця сваёй культуры, усё ж такі нічога не рабіла дзеля гэтага, а прыстасоўвалася да неспрыяльных абставін і спакойна, без лішніх турбот і хваляванняў жыла сабе. У псіхалогіі падобны стан, калі чалавек усведамляе патрэбу ў пэўных дзеяннях, аднак, насуперак гэтаму, не хоча альбо не можа прыняць адпаведныя рашэнні, мае назву **«абулія».** Дык вось, менавіта ў такім стане, на наш погляд, беларускі народ знаходзіўся не толькі ў XIX ст., але і ў савецкі час, прычым у найбольш відавочнай форме.

Сапраўды, многія людзі і ў мінулым, і ў нашым стагоддзі разумелі, што беларускі народ няўхільна дэградуе, амаль што выраджаецца, і патрэбны нейкія захады для яго ўратавання. Але практычна ўсе аддавалі перавагу маўчанню, пасіўнасці, бо так было лягчэй жыць і дамагчыся хаця б нязначных матэрыяльных дабротаў. І гэта таксама каранісца ў нашай псіхалогіі, — абы ўсё было спакойна і ціха, абы каго не пакрыўдзіць. Так, беларускі народ талерантны, рахманы, лагодны, ён, як раней адзначалі, гатоў пайсці на кампрамісы, абы была заўсёды «згода». Безумоўна, гэта добрая рыса характару, аднак, на жаль, у некаторых абставінах яна можа прыводзіць і да негатыўных вынікаў (для саміх жа беларусаў), што між іншым нядрэнна разумелі і выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах паланізатары і русіфікатары «Паўночна-Заходняга краю». У тыя перыяды гісторыі, калі праяўляецца адкрыты здзек, глумленне над народам, яго мовай, звычаямі, празмерная талерантнасць (цярпімасць) народа часцей за ўсё не ідзе яму на карысць.

Прыклады такой асаблівасці беларусаў можна знайсці і ў народным фальклоры (у казках, песнях, прыказках, анекдотах і г. д.). Так, цікава адзначыць тое, што ў розных песнях, анекдотах беларусаў у той час, калі на Беларусі ўзмацнялася прыгонніцтва, часта сустракаюцца словы «паночак», «панок», «бацюшка», «паненка» і да т. п. Адбываецца ў падобных выпадках фарміраванне так званай **«амбівалентнасці пачуццяў»,** калі да адной нейкай асобы адносіны з'яўляюцца дваістымі, г. зн., напрыклад, адначасова станоўчымі і негатыўнымі. Прычым заўважым, што для беларусаў, пры іх пэўнай лагоднасці, пераважала ўсё ж пазітыўнае стаўленне нават да такіх асоб, да якіх прадстаўнікі іншых народаў аднесліся б рэзка адмоўна. Такі характар адносін можна заўважыць у дачыненні да некаторых чыноўнікаў-бюракратаў, памешчыкаў, суддзяў ды інш. І ў тых выпадках, калі віна за нейкія дзеянні адназначна ляжала на канкрэтным чалавеку, беларус нярэдка неяк «прыгладжваў» яго памылкі, недахопы, думаючы больш аб тым, ці не зрабіў сам якоганебудзь недарэчнага ўчынку. Беларус, у большасці, хутчэй зверне ўвагу на свае, чым на чужыя недахопы. Гэта значыць, што яму ўласцівы, у адпаведнасці з псіхалагічнай тэрміналогіяй, унутраны (інтэрнальны) **«локус кантролю».** Прадстаўнікі ж іншых нацый нярэдка больш схільны да экстэрнальнага (знешняга) **«локус кантролю».** Іншымі словамі, адказнасць за вынікі якой-небудзь дзейнасці людзі першай групы часцей бачаць у сваіх асабістых паводзінах, у той час як другія прыпісваюць такую адказнасць нейкім знешнім сілам (прыродным умовам, пэўным групам, катэгорыям насельніцтва). Напрыклад, у кнізе «Трагедия белорусского народа» (1908 г.) даная тэндэнцыя знаходзіць паказальнае адлюстраванне. Аўтар кнігі, прыхільнік палітыкі расійскага ўрада, піша, што хіба не з'яўляецца сапраўднай трагедыяй беларуса, што ён пад уплывам польскіх чыноўнікаў, ксяндзоў, памешчыкаў у многіх месцах пераходзіць у каталіцтва, пачынае гаварыць па-польску і называць сябе палякам. Зразумела, што ўсё гэта не садзейнічала адраджэнню беларусаў, аднак якое рэзюмэ робіць аўтар? Вось яно: «Ці не пара Расіі, пакуль не позна, падумаць аб тым, як звярнуць беларускі народ да яго праваслаўна-рускай, як раней, самасвядомасці...?» Праўда ж, характэрны падыход: маўляў, вінаватыя ва ўсім палякі, і толькі мы, рускія, для вас, беларусаў, з'яўляемся шчырымі дабрадзеямі, мы прынясём вам шчасце і радасць. Канешне, адвесці ад сябе адказнасць за дэнацыяналізацыю цэлага народа куды лягчэй і прыемней, чым узяць хоць бы маленькую долю такой віны.

Невыпадкова, што значная частка беларусаў у XIX ст. верыла многім прапагандысцкім хлуслівым установкам, падпадала псіхалагічна пад іх уздзеянне, як пры гіпнозе. У выніку мела месца т. зв. **акцэнтуацыя** (узмацненне) асобных рысаў характару беларусаў пры адначасовым аслабленні іншых (часта сацыяльна-важных і неабходных) духоўных якасцей. Сярод мноства тыпаў падобнай **акцэнтуацыі** характар беларусаў хутчэй за ўсё можна было б аднесці да **астэнічнага** і **дыстымнага** тыпу, якія вызначаюцца такімі рысамі, як пэўная нерашучасць, недастатковая актыўнасць, схільнасць да дэпрэсіі, пачуццё непаўнацэннасці, апатычнасці. Ды і якім іншым практычна мог быць тып характару беларускага народа пры такіх неспрыяльных умовах яго гістарычнага развіцця, пры падобным націску на псіхіку беларусаў з розных бакоў і па розных каналах?! Больш таго, беларускі народ мог бы поўнасцю асіміліравацца ці дэградаваць, калі б не яго славутая доўгацярплівасць, працаздольнасць, таленавітасць. Нездарма ж міжнародная статыстыка сведчыць, што беларусы — адзін з найбольш здольных і працавітых народаў у свеце. Калі б не гэтыя цудоўныя якасці беларускага нацыянальнага характару, існаванне беларускага народа, як самастойнага этнасу, магло б увогуле спыніцца яшчэ ў XIX ст., асабліва пасля 30-х гг., падчас максімальнага «росквіту» працэсаў дэнацыяналізацыі беларусаў.

Безумоўна, у значнай меры духоўна-маральны патэнцыял беларускага народа быў падарваны, нацыянальная псіхалогія падверглася штучным, насільным зменам і скажэнням. Аднак, хаця воля да жыцця ў беларусаў аслабла, яе ўсё ж ніхто не змог пазбавіць поўнасцю. У тыя часы Беларусь «нацыянальна не памірала, але і не жыла». Гэтыя словы належаць А. Цвікевічу, які далей піша, што Беларусь ахапіў гістарычны нацыянальны **анабіёз,** калі ўсе сілы, уся энергія народа «спыніліся, не выяўляючыся ў актыўнай творчасці, як бы чакаючы свайго ўскросу».

Канешне, пры аналізе псіхалагічных праблем развіцця беларусаў нельга зараз асвятліць усе іх бакі і адказаць на ўсе пытанні. Тэма, мушу паўтарыцца, патрабуе грунтоўных даследаванняў. Я ж не меў намераў абвінавачваць каго-небудзь у нашым сённяшнім становішчы, ускладаць за гэта віну на ўсіх прадстаўнікоў якой-небудзь адной нацыі. За тое, што было ў гісторыі Беларусі, аб'ектыўна павінны несці пэўную адказнасць у першую чаргу тыя, хто найбольш заўзята праводзіў палітычныя ўстаноўкі на практыцы, незалежна ад іх нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасці. Але ўсё гэта адышло ў нябыт, і цяпер усім прыхільнікам беларушчыны даецца яшчэ адзін (мо апошні?) шанц на справе даказаць, што не ўсё яшчэ страчана, што ў нас яшчэ хопіць сілы волі і моцы здзейсніць светлыя **ідэалы нашага новага Адраджэння.**

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**псіхагісторык, сябра Нацыянальнай асацыяцыі «Беларусаведа».**

